# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№42 (56) 31 сьнежня 1993 г.— 6 студзеня 1994 г. Кошт 70 рублёў

# Усяго добрага ў Новым годзе!

## Сьвяточнае віншаваньне Архіепіскапа Гарадзенскага й Ваўкавыскага Валяньціна пастырам, абраўшым шлях манаха і ўсім чадам Гарадзенска-Ваўкавыскай эпархіі

**«З намі Бог! Разумейце вучэньне яго і скарыцеся, яка з намі Бог...»**

Сьвятая Царква заклікае нас у гэтае вялікае сьвята Нараджэньня Хрыстова да духоўнай радасьці й весялосьці.

У адкрыцьці міласэрднай любові Сваёй, у абетаваньні, дадзеным у раю Семяні жонкі, у гэтым «Перша-Эвангэллі» Сваім, Бог абяцае людзям, што Адзінародны Сын Яго ўвасобіцца ад Прэсьвятой Дзевы, без мужа, Духам Сьвятым, і зробіцца дасканалым чалавекам, не перастаючы быць Богам, каб загладзіць кару і выратаваць нас.

Гэта цуд з усіх цудаў: Бог, творца ўсяго, зьяўляецца ўпадабёным Сваім стварэньням, Усемагутны робіцца Немаўляцем, Адвечны — дзіцяцем часу, Бясконцы зьмяшчаецца ў межах чалавечай існасьці. Ці ж тут не самая бязьмежная любоў да кожнага чалавека Зямлі, найбольш жа хрысьціяніну? Мы веруем і спавядаем, што ў імя кожнага з нас Гасподзь да такой ступені ўтаймаваўся. І калі мы верым у гэта, то кожны павінен разам з гэтым адчуваць, што наколькі неба знаходзіцца далей ад зямлі, настолькі вялікія і абавязкі нашыя, віны і грахі нашыя перад Богам.

Добра, браты і сёстры, мець журботнае разуменьне сваёй духоўнасьці і сваёй недасканаласьці ў духоўным жыцьці і богадагаджэньні. Гэта засьцеражэ нас ад грахоў і заахвоціць да пастаяннага посьпеху і дасканаласьці ў дабрадзейнасьцях. Аднак такое разуменьне не павіннна даводзіць нас да маркоты ці роспачы. Не павінна быць перашкодай нашай радасьці: «Заўсёды радуйцеся...» (І Фесал 5,161),— гаворыць Апостал Павел да Царквы Фесаланікійскай, у якой былі душы шчасьлівыя і сэрцы засмучаныя. Але Апостал ведае, што званьне Хрысьціяніна стаіць вышэй усіх формаў жыцьця, усіх выпадковасьцяў становішча, таму і кажа Апостал усім членам Царквы, па неабходнасьці розным: «Заўсёды радуйцеся...», але радасьць ваша заўсёды павінна быць аб Госпадзе, а зараз аб Боганемаўляці ў Віфлееме.

Хрысьціяне сумуючыя! Неабходна вам зноў набыць радасьць у сваім выратаваньні, каб набыць моц, дзейнасьць, рэўнасьць, жыцьцё, любоў, якая ёсьць зьдзяйсьненьне вашага хрысьціянскага прызначэньня, бо гэта: шчасьце ў самім шчасьці, рай на зямлі, неба на небе.

Такім чынам, прасіце Бога, каб прамень яго добрасьці трапіў у вашу ноч і асьвяціў яе Сваім сьвятлом, прасіце да яго з глыбіні вашай духоўнай бядноты аб Славе Божай. Вашы малітвы чакае яго любоў і міласэрднасьць, каб па малітве Вашай, шляхам Сьвятла Эвангэлія Вы прайшлі да новых дабрадзейнасьцяў больш чыстым, больш вялікім справам, чым тыя, якімі вы азнаменавалі сябе нават у вашы лепшыя дні.

Цяпер нам няма аб чым смуткаваць і журыцца, няма чаго бедаваць, «...нас бо дзеля народзіся Атроча Младо Спрадвечна Бог» (Кондак), і з дня нараджэньня па плоці Госпада нашага Ісуса Хрыста, Бог прабывае з намі і мы блізкія да Бога».

У Асобе Эмануіла мы бачым, што неба сышло на зямлю, каб зямля магла ўзьняцца на неба. Сын Божы зрабіўся чалавекам, каб людзі маглі зрабіцца дзецьмі Божымі.

Падзякуем жа Выратавальніку нашаму! У ім дараваньне ўсіх беззаконьняў і няpraўдаў: «Благаслаўляю цябе, Айцец Нябесны, за тваё абетаваньне, дараванае ў раю ад Семяні жонкі! Будзі благаславены за тое, у паследак дній. Ты меў ласку паслаць Гэтага Абетаванага Выратавальніка, Госпада нашага Ісуса Хрыста, Нараджэньне Якога мы зараз супольна і радасна сьвяткуем».

З гэтым вялікім Сьвятам і градушчым Наваговддзем ад усяго сэрца Віншую ўсіх Вас, родных і блізкіх Вашых. Да падаруе Бога-немаўля Хрыстос, Нарадзіўшыйся зараз дзеля нас чалавек і нашага дзеля выратаваньня, мір зямлі нашай у Новым годзе.

**«Благаславёны вянец лета добрасьці Тваёй, Госпадзі».**

**Валяньцін, Архіепіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі.**

**г. Горадня, Нараджэньне Хрыстова 1993/1994 год.**

## Пастырскі ліст ксяндза Біскупа Аляксандра Кашкевіча на нядзелю Сьвятой Сям ́і

Умілаваныя ў Хрысьце Браты і Сёстры!

Сёньня дзень Сьвятой Сям ́і. Гэтае сьвята вядзе нашыя думкі да сьвятыні Назарэтанскай Хаткі, дзе «слова сталася целам і пачало жыць між нас».

Каталіцкі касьцёл заўсёды высока ставіў значэньне здаровай сям ́і для жыцьця народаў і для сваёй місіі. І таму Касьцёл зьвяртае ўвагу ўсіх на Назарэтанскую сям ́ю як на ідэал, створаны Богам. Уважліва паглядзім на сям ́ю з Назарэту. Любоў да Бога сталася ў гэтай сям ́і наймацнейшай энэргіяй і натхненьнем да працы і розных пачынаньняў, да агульных радасьцяў і смуткаў. У Назарэтанскай сям ́і найбольш парушае адзінасьць сэрцаў і думак. Тут сапраўды б ́ецца адно сэрца і пануе адна мова. Вогнішчам гэтае садружнасьці зьяўляецца Увасоблены Бог, які зьбірае ў сябе думкі і пачуцьці Марыі і Язэпа.

Марыя і Язэп служылі Дзіцятку і хацелі служыць яму без астатку, самаааддана, таму што яно было іх адзінаю любоўю.

«Дзіцятка расло і набіралася сілы, напаўняючыся мудрасьцю, і ласка Божая спачывала на ім» (Лк. 2,40).

Усім было добра ў той Назарэтанскай хатцы.

Такога настрою ў хаце прагнуць усе маці і бацькі. Мы мусім прызнаць, што менавіта гэтага нам патрэба: еднасьць душ, узаемаразуменьня і ахвярнай любові. Не было б тады сварак і трагэдыяў, бо шчырая любоў шукала б дабра не для сябе, а для іншых. Адзін думаў бы пра другога, кожны ахвотна браў бы чужыя цяжкасьці на сябе. Усе б стараліся дабіцца прыхільнасьці нябёсаў.

Сёньня — ў дзень Сьвятой Сям ́і — мы жадаем усьвядоміць, якой павінна быць кожная людская сям ́я. Сям ́я, якую Ватыканскі Сабор акрэсьлівае як «хатні касьцёл», як «першую і жывую каморку грамадства», дзе Бацькі наўзамен для сябе, для сваіх дзяцей і сваякоў робяцца супрацоўнікамі ласкі і сьведкамі веры, а для нашчадкаў — першымі настаўнікамі Божых ісьцінаў у сучасным сьвеце.

Сьвяты Айцец Ян Павел II, разьвіваючы далей навуку аб сям ́і ў вучэньні Апостальскім (Adhrtacdi), «Сям ́я ў сёньняшнім сьвеце» (Familiariz corsordio) вучыць, што шлюб ёсьць прычасьцем любові паміж Богам і людзьмі.

Кожны з нас мае сям ́ю, з якой ён выйшаў і якая яго раней выхавала. Паглядзім на нашыя сем ́і. Сям ́я выхоўвае і дае сьвятых, але дае таксама і ворагаў Касьцёла. Дае людзей добрых, але дае таксама і злачынцаў. Кожны з нас сутыкнуўся ў жыцьці з добрымі і дрэннымі сем ́ямі. І ведае, як цяжка жыць у дрэннай сям ́і, якія гэта мае наступствы для дзяцей, і якія гэта нясе пагрозы.

Адкажам на некалькі пытаньняў:

Чаму ў многіх сем ́ях і хатах не сьціхаюць крыкі, не сканчаюцца сваркі?

Чаму сумеснае жыцьцё дзьвух людзей, якія калісьці наўзамен сабе — пры сьветлым Абліччы Бога — абяцалі любоў, перамянілася цяпер у нянавісьць?

Чаму раптам расьце лічба разьбітых сем ́яў?

Чаму ўсё болей разводаў?

Чаму прыбывае лічба дзяцей, якія пры жывых бацьках застаюцца сіратамі?

Чаму сям ́я лічбова зьмяншаецца?

Чаму ў страшным тэмпе расьце колькасьць абортаў, якія ёсьць нічым іншым, як забойствам? А пяты Боскі запавет дакладна гаворыць: «Не забівай!». А крывавае жніво працягваецца.

Чаму столькі нянавісьці да ненароджанага дзіцяці?

Чаму бацькі асуджваюць сваё дзіця, безабаронную істоту, на сьмерць? А Ісус гаворыць: «Сапраўды, гавару вам: ўсё тое, што вы зрабілі майму найменшаму брату, вы мне зрабілі». (Мт. 25.40).

Чаму дзеці, якім дазволена было нарадзіцца, не заўсёды маюць спрыяльныя варункі для разьвіцьця — як маральныя, так і матэрыяльныя.

Чаму пашыраецца алкагалізм, наркаманія, і жыцьцё ў сям ́і пераўтвараецца ў сапраўднае пекла?

Чаму ў такім тэмпе шырыцца сэксуальная амаральнасьць, якая стаецца прычынаю многіх хваробаў і эпідэмій?

Чаму шырыцца злачыннасьць сярод непаўналетніх і моладзі? Чаму? Чаму? Такіх пытаньнях усё болей і болей.

Мае дарагія! Прабачце, што пра гэта я з Вамі гавару ў такім радасным перыядзе, якія зьяўляюцца сьвяты Божага Нараджэньня, але я,Біскуп,не магу, аднак, мінуць гэтых балючых пытаньняў ў дзень Сьвятой Сям ́і, у дзень, калі мы засяроджваемся пад праблемамі нашых сем ́яў.

Браты і Сёстры! Што нам трэба рабіць, каб ратаваць нашыя сем ́і, каб ратаваць любоў і жыцьцё ў кожнай сям ́і? Чаго патрабуюць нашыя сем ́і? Адкажу коратка — патрабуюць Бога, крыніцы Любові, патрабуюць Божае Моцы.

Гэтая моц зыходзіць з Сакрамэнту шлюбу, але каб гэтая моц мела наступствы, неабходна вымаганьне вялікае малітвы ў сем ́ях і за сем ́і. Трэба маліцца, каб гэтыя небясьпекі не зьнішчылі любові і жыцьця ў нашых дамах. Патрэбная аднова.

Патрэбныя агульныя малітвы ўсёй сям ́і, патрэбен агульны ўдзел у нядзельнай і сьвяточнай сьвятой імшы, патрэбная частая споведзь і сьвятая камунія, каб узмацняцца целам Хрыстовым. Ісус у Таямніцы Эўхарыстыі паядноўвае сем ́і наймацнейшым зьвязам дабра і любові.

Сёньняшняе сьвята павінна для нас быць днём задумы над нашымі ўласнымі сем ́ямі.

Паспрабуйма даць сабе адказ на пытаньні:

Ці ў маёй сям ́і пануе любоў, згода і ўзаемнае духоўнае ўзбагачэньне?

Ці мая сям ́я, у якой я жыву і якую я ствараю, магла быць прыкладам для іншых?

Дарагія Браты і Сёстры! Напрыканцы нашых сёньняшніх разважаньняў аб сям ́і жадаю, каб усе сем ́і стараліся ісьці сьледам сям ́і з Назарэту. І каб «усе сем ́і зрабіліся моцныя Богам».

На гэтую вялікую аднову нашых сем ́яў ад усяго сэрца бласлаўляю.

ў імя+Айца+Сына і+Духа Сьятога

**Біскуп Аляксандр КАШКЕВІЧ ардынарый Гарадзенскі.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Жыве «Пагоня»!

42 нумары «Пагоні» за мінулы год — своеасаблівы летапіс жыцьця некалі суцэльнага рэгіёну, які і дагэтуль аб 'ядноўваюць гістарычныя і культурныя традыцыі. Няпростым быў год. Але й ў самых складаных умовах мы рабілі ўсё, каб газэта своечасова трапляла да чытача, каб яна несла актуальную інфармацыю, была, нягледзячы на палітычныя межы, добрым сябрам і дарадцам у кожным доме, дзе любяць і шануюць беларускае слова.

Пачынаючы з II квартала, наладжаны рэгулярны штотыднёвы выпуск. Сёньня «Пагоню» стала атрымліваюць ня толькі нашы сябры на Беларусі, але і на Віленшчыне, Беласточчыне. Акрамя таго, газэта рэгулярна дасылаецца ў Злучаныя Штаты, Нямеччыну, Канаду, Англію, Расею, Аўстралію. Амаль тысяча чалавек выбралі нас як падпісчыкі на будучы год. Калі ўлічыць, што ўсяго паўгады назад «Пагоня» распаўсюджвалася толькі праз кіёскі «Саюздруку», то паказчык не благі.

Безумоўна, мы ня лічым, што дасягнулі максімум магчымага. Зорны час «Пагоні», мы ўпэўнены, яшчэ наперадзе. Спадзяемся, што ўжо ў наступным годзе наша газэта стане па-сапраўднаму масавым выданьнем. Са свайго боку калектыў рэдакцыі будзе рабіць дзеля гэтага ўсё магчымае. І ў гэтай працы, мы, як і дагэтуль, спадзяёмся на Вашую падтрымку. Газэта ня можа жыць без зваротнай сувязі з чытачом. А таму ня толькі купляйце і чытайце «Пагоню», але і пішыце нам. Пішыце пра ўсё, што Вас хвалюе, чым Вы жывеце... Толькі разам мы будзем моцнымі.

Толькі разам з Вамі «Пагоня» выканае сваю асноўную задачу — аб 'яднаць і згуртаваць усіх людзей, незалежна ад нацыянальнасьці, якія лічаць Беларусь сваёй Бацькаўшчынай, якія жадаюць ёй і сабе росквіту і дабрабыту.

**Шчыра і сардэчна віншуем Вас з надыходзячым Новым годам і калядныімі сьвятамі. Няхай Новы год прынясе ўсім Вам збавеньне ад трывог, падорыць Вам шчасьце, радасьць і здароўе, мір і лад у Вашым доме. У гэты нялёгкі для Бацькаўшчыны час зычым Вам узаемапаразуменьня і падтрымкі, спагады. Плёну Вам ва ўсіх справах.**

**Жыве Беларусь! Жыве «Пагоня»!**

## З. Пазьняк заставіў аб сабе добрыя ўражаньні ў Ваўкавыску

**У нядзелю 19 сьнежня ў Ваўкавыскім ГДК адбылася сустрэча грамадскасьці з лідэрам БНФ З. Пазьняком і дэпутатамі ад апазіцыі: Л. Баршчэўскім, Ю. Беленькім, А. Сасновым, а таксама Г. Быкавым — старшынёй свабоднага прафсаюза. Сабралася столькі людзей, што зала не змагла зьмясьціць усіх жадаючых. Па просьбе людзей вялася трансьляцыя на плошчу, дзе таксама было шмат народу.**

Распачаў сустрэчу Н. Аксаміт — дэпутат ад апазіцыі з Ваўкавыска. Ён падзякаваў усім прысутным, што сабраліся гэтым вечарам у гарадскім Доме культуры, і прадставіў гасьцей.

Ю. Беленькі праінфармаваў аб эканамічным стане ў краіне, падкрэсьліў, што ўрад і Вярхоўны Савет нічога ня хочуць рабіць, каб палепшыць стан эканомікі, і адказаў на шматлікія пытаньні прысутных.

Л. Баршчэўскі — закрануў пытаньні адраджэньня беларускай мовы й культуры. У канцы выступа сказаў, што па нацыянальнасьці ён рускі, але адстойвае адраджэньне беларускасьці й будзе надалей гэта рабіць. На разьвітаньне паведаміў, што ўбачыў сьвет нямецка-беларускі слоўнік (шматтомнік), і вядзецца праца над ангельска-беларускім.

Г. Быкаў — распавядаў аб асноўных мэтах свабоднага прафсаюза, яго структуры і аб тым, як яго можна стварыць па месцы працы. Ён заклікаў прысутных уступаць у свабодны прафсаюз, і адказаў на шматлікія пытаньні.

З. Пазьняк гаварыў аб неабходнасьці ўвядзеньня нацыянальнай валюты, выказваўся супраць аб 'яднаньня грашовых сістэм з Расеяй, пракамэнтаваўшы гэта як чарговы зман народу ўрадам Кебіча. Распавядаў аб рабоце, якая вядзецца па прыняцьцю новай Канстытуцыі і інстытута прэзідэнцтва.

Адказваючы на пытаньні, З. Пазьняк выказаўся наконт выбараў у Расеі, і зазначыў, што мы не павінны аддаваць ядзерную зброю ў рукі рускаму фашызму. Адзначыў, што выбары ў сакавіку 1994 года ў Беларусі наўрад ці адбудуцца. Да прысутных З. Пазьняк зьвярнуўся з заклікам запісвацца ў БНФ ці другія дэмакратычныя партыі, аб 'яднаньні, а таксама падтрымаць усебеларускую забастоўку. Прысутных вельмі ўсхвалявала пытаньне, што з Шушкевічам і якое рашэньне прыняў ВС па дакладу Лукашэнкі. На гэта З. Пазьняк адказаў так: «Гэта было палітычнае шоу, дзе за закрытымі дзьвярыма адзін аднаго пачалі абвінавачваць у карупцыі. І ніякае рашэньне не было прынята...»

Сустрэча з дэпутатамі зацягнулася... Пытаньні, здавалася, не скончацца, але нават калі ўжо і вырашылі разысьціся, незадаволеных у Ваўкавыску не засталося. Зянона Пазьняка запрасілі наведваць горад часьцей.

**Лявон ЛЯЎКО,**
**сябра грамадска-палітычнага аб 'яднаньня імя К. Каліноўскага, сябра БНФ.**

## Памяці Вацлава Іваноўскага



Вацлаў Іваноўскі нарадзіўся 7.6.1890 г. у фальварку Лябёдка Лідскага павету Віленскай губэрніі ў памешчыцкай сям 'і. Скончыў 5-ю клясічную гімназію ў Варшаве (1899 г.), той жа восеньню паступіў на факультэт хіміі Пецярбургскага тэхналягічнага інстытута, які скончыў у 1904 г. Заклачнык і старшыня выдавецкіх таварыстваў у Пецярбургу (1906—1913) і Вільні (1913—1915). У 1915—1917 г.г. — кіраўнік беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Вільні і Петраградзе. У 1918 г. — рэктар пэдагагічнага інстытута ў Менску і міністар асьветы БНР. Пасьля няўдалых спроб па стварэньню беларускай дзяржавы ў 1921 г. сышоў з палітычнай арэны. У 1922—1939 г.г — прафэсар Варшаўскага палітэхнічнага інстытута, а ў 1940—1941 г.г — Віленскага унівэрсітэта. У лістападзе 1941 г. стаў бургамістрам г. Менска, дзе й памёр ад ран, нанесеных у час пакушэньня на яго асобу.

Падчас існаваньня БССР Вацлава Іваноўскага лічылі ворагам беларускага народу, а таму ўзгадваць яго імя было забаронена.

### ЗАГАД № 26
### Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ

**г. Менск** **8 сьнежня 1943 г.**

7 сьнежня 1943 года, пранізаны бандыцкаю куляю, закончыў сваё працавітае жыцьцё прафэсар д-р інж. Вацлаў ІВАНОЎСКІ (1880—1943) — старшыня сталічнага гораду Менску, старшыня Беларускае Рады Даверу й прэзідэнт Беларускага Навуковага Таварыства ў Менску.

Вацлаў Іваноўскі быў адным з сэньёраў беларускага адраджэньня. Яшчэ як студэнт супрацаваў у выданьні «Свабода» і працаваў у выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца». Пазьней быў адным з арганізатараў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту і прынасіў на навуковым полі славу і карысьць Беларусі. Дарма што паважны век, ён прыняў на сябе ў вызваленай Беларусі шмат цяжкіх і ганаровых абавязкаў і мужна і няўтомна выконваў іх, заўсёды стоячы на варце інтарэсаў Беларускага народу. З асаблівай любасьцю песьціў думку аб аднаўленьні Беларускага Унівэрсітэту. Беларуская сталіца мела ў ім у цяжкі ваенны час добрага, поўнага зразуменьня бацьку. Гэтага чалавека навукі, грамадзкага дзеяча і шчырага прыяцеля маладога пакаленьня, не пашкадавалі подлыя вырадкі—бандыты, якія забілі яго з-за вугла, абрываючы яго жыцьцё, так патрэбныя яшчэ для Беларусі жыцьцё і дзейнасьць.

Саюз Беларускае Моладзі будзе заўсёды шанаваць заслужаную памяць Вацлава Іваноўскага як чалавека, які з пагодай духу і адвагай да апошняга працаваў для Беларускага народу на самым адказным становішчы. Дарма, што яму даўно належыўся добра заслужаны адпачынак, ён пакінуў, калі гэта спатрэбілася Бацькаўшчыне, супакойную навуковую працу, каб актыўна змагацца на супрацьбальшавіцкім фроньце за волю Новай Эўропы і будучыню Беларусі.

Імя праф. Вацлава Іваноўскага будуць насіць юнацкія грамады і гурткі, а штогод, у дзень забаваньня моладзі, яно будзе успамінацца ў шэрагу іменных тых, што загінулі за волю й будучыню Беларусі.

**М. ГАНЬКО,**
**шэф-праваднік.**

* * *

Вы, маладыя, бярэце ў свае рукі беларускі нацыянальны сьцяг. У вас шмат маладой энэргіі й вялікія магчымасьці, і вы паводле закону прыроды зоймеце вашае мейсца ў грамадскім жыцьці, у працы й змаганьні. Дык мы цешымся, што нашая зьмена вартая тае гістарычнае часіны, якую мы перажываем, і шлем вам на дарогу самыя найлепшыя і сардэчныя пажаданьні. Расьці, дарагая моладзь, мацней, каб пабудаваць новую і шчасьлівую Беларусь.

**Праф. Вацлаў ІВАНОЎСКІ.**
**(З прамовы да вышэйшых кіраўнікоў Саюзу Беларускае Моладзі 21.9.1943).**

## У падтрымку С. Шушкевіча.

Гарадзенская філія БСДГ накіравала тэлеграму ў Вярхоўны Савет у падтрымку старшыні парлямэнту С. Шушкевіча, бо лічыць напады нардэпа Лукашэнкі ў яго бок неабгрунтаванымі. Сацыял-дэмакраты перакананыя, што нардэп Лукашэнка шукае хоць якой зачэпкі, каб адаслаць сьпікера ў адстаўку.

**(ав.)**



**BELARUSIAN ASSOCIATION OF AUSTRALIA**

BOX No. 94, P.O. FAIRFIELD, N.S.W. 2165
Australia

Снежань - 1993г.

Вельмі Шаноўны Сп. Рэдактар газэты "Пагоня"!

Ужо прайшло некалькі бурлівых гадоў з таго часу, калі беларускі народ пачаў рашуча падымацца на свае нацыянальныя ногі і пад націскам беларускіх патрыётаў Урад абвясціў Сувэрэнітэт Беларусі.

Цяжкасці былі і надалей ёсць даволі вялікія! Дзейнасць непрыхільнікаў незалежнасці Рэспублікі Беларусь праводзілася і надалей праводзіцца пад рознымі шыльдамі і паказваецца ў розных формах - аднак з апьходзячым ў гісторыю 1993-м годам мы таксама бачым тыя вялікія поспехі, якія былі дасягнутыя беларускім народам за гэтыя гады ў галіне нацыянальнага адраджэння і замацавання Незалежнасці Рэспублікі Беларусь...Калі ў 1991-м годзе Беларусь была поўнасцю незнаная - дык цяпер мы маем гонар і прыемнасць бачыць, што Рэспубліка Беларусь ўжо займае сваё пачэснае мейсца сярод другіх свабодных народаў свету ў міжнародных вечах і арганізацыях.

Мы таксама бачым, як адкрываюцца Дыпламатычныя Прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь ў розных краінах свету, ўключаючы далёкі Усход ды краіны "цёмнага" кантынэнта - Афрыкі і слова "Беларусь" ўсё болей ўжываецца ў прэсе свабодных краін свету.

З далёкай Аўстраліі мы перасылаем Вам, Сп. Рэдактар, сябрам Рэдакцыйнай Калегіі, супрацоўнікам і чытачам газэты "Пагоня" свае пажаданні найлепшага здароўя і поспеху ў Новым 1994-м Годзе!

Жыве Беларусь!!!

З пашанай да Вас,

Алесь Алехнік
Гэнэральны Сакратар

 







# ГРАМАДЗТВА

## Час да яднаньня

**Мы так хутка прывыклі да таго факту, што жывем у незалежнай Беларусі, што не зьвяртаем на гэта амаль ніякай увагі. Хаця, калі паглядзець з пункту гледжаньня спажыўца, нічога асаблівага з набыцьцём рэспублікай новага статуту ў іх жыцьці не адбылося. І калі яшчэ год назад мы глядзелі рэпартажы з сэсіі ВС Беларусі, спрачаліся аб ПКБ і БНФ, каму аддаць перавагу, дык сёньня большую частку насельніцтва гэтыя пытаньні ўвогуле не цікавяць. Эканоміка сям 'і паглынае ўсе астатнія праблемы. Жабрацтва прыбірае да рук усё большыя і большыя колы насельніцтва. А сапраўды, калі глянуць на наша быцьцё — усё неяк не так. З аднаго боку — талерантны, працавіты народ, рахманы да любой улады. З другога боку — усе войны каціліся праз нас, усе палітычныя экспэрыменты праводзіліся на нас, Чарнобыль стаў нашай бядой, непагодзь цяпер наш сталы сусед і г. д. Адкуль усё гэта!**

Неяк мне давялося чуць такое меркаваньне: «Гасподзь Бог вельмі ўважлівы і чулы да кожнага народа. Усімі сіламі спрыяе яго прозьбам і малітвам. І кожны народ зьвяртаецца са сваімі клопатамі на сваёй роднай мове. Толькі беларусы, адцураўшыся ад матчынага слова, засталіся непачутымі Богам. Адсюль і ўся гэтая навала».

Хтосьці, напэўна, абвінаваціць мяне ў блюзьнерстве, багахульстве і г. д. Не сьпяшайцеся. Чалавек жыве на зямлі сваіх продкаў. Забыўшыся пра мову, мы прадалі і сваю душу, і сваю гісторыю, і сваю Радзіму. Калі вы пачытаеце Біблію, дык убачыце сутнасьць гэтай здрады. Канешне, нехта скажа, што ўсе мовы для Бога аднолькавыя. Але за мовай стаіць чалавек і яго мінулае.

Мы сталі ахвярамі свайго гэапалітычнага месцазнаходжаньня. Дрэннае людзі заўжды засвойваюць хутка й трывала. Мой дзед расказваў, як яшчэ далей, пры цары ды й пры паляках, калі мужыкі на сьвяты ці ў нядзелю зьбіраліся разам паразмаўляць аб жыцьці-быцьці і ўзьнікала пытаньне адзначыць гэта сьпіртным, дык бралі ў краме «сучок» на трох. Гэта дзесьці па сёньняшніх мерках грам 200—250 гарэлкі. Таго рэдкага п 'яніцу, што быў у вёсцы, ведала ўся акруга. Але прыйшлі Саветы. І пачалося маральнае вынішчэньне чалавека, якое цесна зьвязана з фізычным. Пэўна, кожны ведае жарт-пытаньне, што хадзіла на Беларусі ў апошнія гады: «Чаму ў Заходняй Беларусі людзі жывуць лепей, чым ва Ўсходняй? А таму, што Савецкая ўлада прыйшла туды на 20 гадоў пазьней». Ці не трапна заўважыў народ?

На працягу 70 гадоў з беларусаў упарта вынішчалі ўсё беларускае. Нам абяцалі, што мы першымі ўступім у камунізм, нас абвяшчалі самымі сьвядомымі і таму ахвотней за іншых бралі ў вайсковыя вучылішчы й кідалі ў «гарачыя кропкі», свабодна разьмяшчалі тут ракэтныя ўстаноўкі, робячы кожнага беларуса закладнікам ваеннай маскоўскай дактрыны. Кожны партыец перад кар 'ерным скачком накіроўваўся на Беларусь, як на палігон. Можа таму і большасьць нашых кіраўнікоў сёньня без родуплемяні, а проста «хомасаветыкус».

Я паўтараю вядомыя ісьціны, але не ўспамінаць іх немагчыма. Давайце яшчэ раз паспрабуем вырашыць, хто ж мы такія. Усё беларускае мы згубілі, а нешта прыдбаць—не атрымалася. Няма савецкай этыкі і савецкай чалавечнасьці. Як бы там ні казалі, а ўсё лепшае ў чалавеку выхоўваецца вякамі і грунтуецца на нацыянальнай глебе. Вы зьвярніцеся нават да мілай для многіх Расеі. Прагрэсіўнае рускае дваранства — гэта людзі, адданыя Расеі, людзі з пачуцьцём уласнай годнасьці, з сумленьнем, якім не шкада было жыцьця за Айчыну. Яны і гінулі ў рэвалюцыю за сваю родную зямлю, за свае ідэалы. А каго потым стала хваляваць мова, Радзіма, карані. Мы сьцёрлі ўсе межы і абвясьцілі аб беднасьці савецкага народу, у якога ўсё агульнае (г. зн., нічыё). І сталі ганарыцца, што можам забіць любога, бо мы — супэрдзяржава. Мы — краіна-дыктатар. Адсюль і кожны стаў дыктатарам у межах свайго жыцьця. Калі няма беларусаў, дык і ня трэба зьвяртаць на іх увагі. І вось узьнімаецца пытаньне аб нацыянальнай сімволіцы. Маўляў, яна фашысцкая, а таму нашто нам яе гістарычнае паходжаньне. Але ніхто сёньня не згадвае, колькі злачынстваў супраць чалавецтва зроблена пад пяцікутнай зоркай і чырвоным сьцягам. Забаранілі сьвяткаваць угодкі СБМ, бо СБМ, з яго прарасейскімі лідэрамі не ў згодзе а ні з якой гісторыяй, акрамя гісторыі КПСС. Ну, а яшчэ калі ёсьць і падтрымка ўладутрымаючых... Так, пачынаючы з гісторыі, палітыкі, эканомікі і, нісходзячы на звычайны бытавы ўзровень, мы, беларусы, самавынішчаемся. Мы палохаем адзін аднаго то камуністамі, што ўзьнімаюць галаву, то палякамі, якія вось-вось акупуюць Заходнюю Беларусь і акаталічаць усіх, выдатна прыкрываючы сваю бяздзейнасьць. Вынік: шматлікія дэмакратычныя партыі Беларусі ахопліваюць невялічкую колькасьць людзей, але і вялікага хаджэньня нешта з іх боку нябачна. А вось членаў ПКБ ужо дзесяткі тысяч, бо яны зноў ідуць у масы. І, згадзіцеся, камуністы умеюць працаваць з людзьмі, аб чым красамоўна гавораць нядаўнія выбары ў Расеі. Мы крычым, і ўсё спыняецца на гэтым крыку. Тыя ж каталікі чалавека і прывецяць, і запросяць у касьцёл, і ўсё растлумачаць, і нават фэстывалі духоўнай музыкі праводзяць. А вы заходзілі ў праваслаўную царкву? Мне, хрышчонаму ў праваслаўі, дык і сорамна часам. Ідзе служба, а бабулькі — сьпіною да сьвятара і аб цэнах, плётках, ды яшчэ на моладзь прысутную цыкаюць: чаго панапрыходзілі, не прапіхнуцца... Вось і думай, хто хутчэй пераканае цябе, ксёндз ці праваслаўная бабулька.

Цяжка сёньня звычайнаму чалавеку адарвацца ад будзённых эканамічных пытаньняў і асэнсаваць сябе беларусам, пачаць клапаціцца аб сваёй духоўнасьці. Тут і саўковая сістэма адыграла сваю чорную ролю. Ня трэба абурацца на гэтых людзей. Ім трэба дапамагчы. І тыя, хто гэта разумее, павінны, ўрэшце, аб 'яднацца і падысьці да кожнага чалавека са словам. Асабліва сёньня, перад вясновымі выбарамі (вельмі хочацца верыць, што яны ўсё ж адбудуцца) неабходна яднаньне ўсіх прагрэсіўных сіл Беларусі. Горадня мае таксама вялікі інтэлектуальны нацыянальны патэнцыял. Хтосьці стаяў у вытоку «Паходні», хтосьці агітаваў у першых пікетах БНФ і ўтвараў ТБМ. Розныя прычыны паўплывалі на тое, што гэтыя людзі засталіся сёньня па-за нацыянальным рухам. Самы час забыцца пра былыя крыўды, адкінуць уласныя амбіцыі і працягнуць адзін аднаму рукі. Нам трэба сесьці за агульны стол, дзе пакаваў бы толькі адзін прынцып: чым дапамагчы сваёй Беларусі. І трэба зрабіць гэта сёньня, бо заўтра можа быць позна.

**В. ВАРАНЕЦ.**

## Не жадаю жыць на сьметніку

Тое, што палітыка ўзаемазьвязана з эканомікай, даўно зразумеў увесь сьвет. На жаль, палітычныя дзеячы сувэрэннай Беларусі аніяк няўцямяць гэтую нескладаную рэч, і па-ранейшаму цягнуцца ў рэчышчы чужой і шкоднай для Беларусі і яе народа эканамічнай канцэпцыі.

Чаму такое адбываецца? Тлумачэньні тут самыя простыя. Намэнклятурны парлямэнт нашай дзяржавы не прывык думаць і дзейнічаць самастойна, яму куды больш да густу функцыянаваць па дэрэктыве ці цыркуляры, які зпусьціліі аднекуль зьверху.

Ствараецца ўражаньне, што нашаму кіраўніцтву ўсё роўна, адкуль гэтыя ўказаньні, абы яны існавалі. Таму нявольніцкія паводзіны перад Масквой, пацьверджаньне таго, што адсутнічае ўласная зьнешнегандлёвая дактрына інтэграцыі Беларусі ў цывілізаваную эканамічную прастору сьвету. Гэта па сутнасьці не спрыяе нашай папулярнасьці ў эканамічных колах Захаду.

Колькі адпаведных захадаў зроблена з боку апазіцыі, не зьлічыць, але ўсчуўшы, што шлях эканамічнага адраджэньня значна лацьвейшы, калі мы будзем дзейнічаць у накірунку Вест, артадоксы з ліку вэтэранаў пачынаюць такі вэрхал у парлямэньце, што ў звычайнага чалавека робіцца ўражаньне, што лепей, як з Расеяй, нашаму люду ніколі ня будзе, і іншага выйсьця шукаць няма падстаў.

Сумна слухаць такія сьцьверджэньні, бо яны ня што іншае, як дэзінфармацыя насельніцтва. Хочацца, каб людзі ўсёткі ведалі праўду, хоць і пакутную, але праўду.

Стагоддзі панаваньня на нашай зямлі расейскай імпэрыі, быццам магутным насосам, высмоктвалі з нашай Бацькаўшчыны амаль усё лепшае. Дарэчы, таксама расейцы рабілі й з другімі народамі, якія трапілі пад прыгнёт у выніку захопніцкіх войнаў Масковіі.

Такі падыход з боку вялікадзяржаўных амбіцый правячай вярхушкі — напачатку быў царызм, потым палітбюро — стварылі вельмі неспрыяльныя ўмовы для далейшага разьвіцьця рускага этнасу.

Асабліва шкодны стала спажывецкая рыса ў характары рускага чалавека. Жаданьне пражыць за чужы кошт бадай зьнішчыла ў рускім характары пачуцьцё годнасьці, патрыятызму, самавызначэньня.

А таму ісьці ў русьле палітыкі Ельцына й яго каманды няма сэнсу. Народ-жабрак ня ў сіле дапамагчы другім, бо ён сам ня можа выкараскацца з глыбокай эканамічнай і духоўнай ямы. Яскравы прыклад бездапаможнасьці — заходняя гуманітарная дапамога, якая ня першы год фактычна ўтрымлівае велізарную краіну на плыву.

Але й гэта ня выратуе Расею, бо ў гэтай краіне дастаткова сілаў, якія робяць усё, каб крызіс духоўны й матэрыяльны паглыбляўся, каб грамадзтва раскалолася на ваяўнічыя групоўкі. Гэта ўжо адбываецца пакуль што рэгіянальна, але з часам адна шостая зямной сушы развaліцца на многа самастойных з рознымі палітычнымі накірункамі дзяржаўных утварэньняў. Такі лёс наканаваны гісторыяй і Богам краіне, якая збудавана на крыві й гвалце.

Нам жа, нашчадкам Скарыны, Вітаўта Вялікага, Янкі Купалы, сорамна трымацца за палітычнага нябожчыка, які даўно стаў сьметнікам сьвету. Я не жадаю, каб мае дзеці жылі на сьметніку.

**В. ЖУК.**



## Выпрабаваньні... з усіх бакоў

Я — лекар-псіхатэрапэўт. Лякую словам. Зазначу, што за апошнія гады назіраецца павольнае, але павелічэньне колькасьці пацыентаў, якія жадаюць атрымаць дапамогу на роднай мове. У 1989-90 гадах лічба іх была 0,1—0, 2%, у 1993 г. — 1,8%.

Няма нічога дзіўнага ў гэтай прапорцыі. Беларусы асьцярожныя й робяць усё абдумана. У шэрагу выпадкаў быць беларусам — значыць, нешта страціць. Напрыклад, у маёй практыцы няма дыягнастычных беларускіх тэстаў. Пацыент жа, які стала пачаў карыстацца роднай мовай на працы й дома, падсьвядома выяўляе псіхалягічны супраціў пры вяртаньні на расейскамоўнае сьветаадчуваньне, калі яму прапануюць тыя тэсты, якія маюцца на Беларусі. Вядома, што гэта вядзе да скажэньня вынікаў тэсьціраваньня.

Мае асабістыя спробы пераладкаваць тэсты скончыліся няўдачай, бо ў тэстах («тэст» па-ангельску — дасьледваньне, выпрабаваньне) кожнае слова, яго фактычныя, сэнсавыя і інш. значэньні, адценьні, вельмі важныя. Таму кожны тэст павінен прайсьці клінічнае (гэта значыць, навуковае!) выпрабаваньне.

Калі я гэта зразумеў, то зьвярнуўся ў Міністэрства Аховы здароўя, мой ліст пераслалі туды, дзе ёсьць навукоўцы, псіхалагічныя кафэдры — ў Гарадзенскі мэдінстытут, бо тут рыхтуюць мэдычных псіхолагаў на кафэдры прафэсара Абухава.

З адказа прафэсара Абухава відавочна, што ён ня мае жаданьня ісьці насустрач практыкам аховы здароўя, не зьбіраецца рыхтаваць псіхолагаў для аўтахтонаў, бо ўсе грошы ідуць на падрыхтоўку псіхолагаў для рускамоўнага насельніцтва, што азначае дыскрымінацыю — адсутнасьць нейкага віду мэдыцынскай дапамогі некалькіх (пакуль што!) тысячаў беларусаў, што для Абухава зьяўляецца ўсяго толькі цікавай справай («не лишенной интереса»).

Гэты асобны факт, які я прыводжу, паказвае адну з недругарадных перашкод, якія пазбаўляюць беларусаў хутчэйшага вяртаньня да нацыянальнай самасьвядомасьці. А калі гэта так, то трэба змагацца супраць абмежаваньня беларусаў у правах.

**С. ЯЗЕРСКІ,** псіхатэрапэўт.
г. Менск.

## Вымушаны адпачынак

З 24 сьнежня ў нечарговы адпачынак пайшоў працоўны калектыў Гарадзенскага завода такарных патронаў. Прычына — адсутнасьць грошай для аплаты працы работнікаў і за ацяпленьне вытворчых памяшканьняў прадпрыемства. Доўжыцца ён будзе ажно да 10 студзеня. У якасьці кампэнсацыі работнікі атрымаюць дзьве трэціх мінімальнага заробку.

**А. Д.**

 

# ПАДАРОЖЖЫ

Ала БІБІКАВА

# Люблю цябе, жоўтая Дзукская восень!



## Юзэк, які цудоўна «балакаў» па-украінску і як ніхто іншы ўмеў ствараць сьвяты

Пасьля чарговай экскурсіі ў Гародню Юзэк вярнуўся ўшчэнт расчараваны.

— Яшчэ ў Летуве жыцьцё больш-менш цярпімае. А вось Беларусь...

Гародня падалася госьцю шэрай, бруднай, неахайнай. А крамы ледзь не выклікалі шок.

— Самае прыкрае тое, што я так і не адчуў, што пабыў менавіта на Беларусі: беларускай мовы нідзе не пачуў, не бачыў нічога адметнага, беларускага... Падалося, што большая частка людзей зусім апалітычная, іх не хвалюе нічога, акрамя ежы й адзеньня.

Камуністы хацелі, каб я не быў палякам, ты — беларускай ці расейкай. Яны хацелі вывесьці новую пароду людзей — «советский народ». Без каранёў, без памяці, без мовы... І ім многае ўдалося...

Юзэк трапіў у Друскенікі выпадкова. Цікаўнасьць прывяла. Аб 'езьдзіўшы ледзь не ўвесь сьвет, добра вывучыўшы Эгіпэт і Мэксіку, Турцыю й Кітай, Англію й Канаду, Індыю й Нямеччыну, дасягнуў і былога СССР. Часта бывае на Украіне. Вельмі блізка пазнаёміўся з гісторыяй і літаратурай украінскага народу, а мову вывучыў дасканала!

Цяпер яго «хвароба» — Летува. Цікавіць усё: палітыка, эканоміка. А найбольш — лёс палякаў, для якіх Летува стала Радзімай. З гэтай нагоды езьдзіў у Вільню, меў шмат незабыўных сустрэчаў і знаёмстваў.

— Я вельмі паважаю летувіскі патрыятызм, але хацелася б, каб нацыянальныя меншасьці мелі большыя магчымасьці для свайго разьвіцьця й існаваньня,— распавядае Юзэк.— Многія мае новыя знаёмыя — палякі з Віленшчыны — адзначалі, што яны ўсё ж адчуваюць сябе чужымі ў сваёй дзяржаве, нягледзячы на ўсе намаганьні быць не госьцем, а гаспадаром, нягледзячы на добрае веданьне летувіскай мовы.

Юзэк — не палітык, не эканаміст, не гісторык, не дасьледчык мінуўшчыны. Ён звычайны фэрмэр з паўднёвага польскага ваяводзтва. Мае добры кавалак зямлі, вялікую птушкаферму, і амаль увесь час жыве ў звыклых, зусім празаічных клопатах пра сям 'ю, дом і зямлю. Немалым потам здабыты дабрабыт дазваляе дбаць пра душу, мець ваяжы па ўсім белым сьвеце, калекцыянаваць карціны, вывучаць мовы й культуры розных народаў...

Яго вельмі ўразіла, што адна з нашых агульных сяброўак Галя з Воранаўскага раёна, полька па нацыянальнасьці, ня ведае роднай мовы, а другая, беларуска, ня можа размаўляць па-беларуску. А яшчэ зьдзівіла, што калі ў рэстарацыі замовіш на дваіх з сябрам «чатыры разы па пеньцьдзесёнт», абавязкова прынясуць два разы па сто... А яшчэ тое, што ў самай вядомай прыватнай кавярні Друскенікаў пасярод залы — дзірка ў падлозе. А яшчэ тое, што летувіскія рынкі ломяцца ад беларускага харчу, а ў беларускіх крамах нічога няма.

## Аднойчы адчуўшы сябе чалавекам...

«Аднойчы адчуўшы сябе чалавекам, немагчыма стаць зноўку духоўным бадзягам...» — гэтыя радок я запісала ў нататнік 4 кастрычніка. Крывавыя падзеі ў Маскве настолькі ўразілі ўсіх нас!

— Бог, не дапусьці вяртаньня да старога...— бясконца паўтарала кабета з суседняга пакоя.

— Рыхтуйце, дзяўчаткі, сухары,— не зусім весела жартаваў знаёмы паляк.

— Вяртаньне да старога немагчыма,— падбадзёрваў усіх аптыміст Лайміс.

Лаймісу лёгка быць аптымістам — ён жыве ў Летуве. Мы — у Беларусі, урад якой кожны свой крок зьвярае па Расеі.

Я ўпэўнена ў тым, што выраджэньне чалавека спынена. Толькі ў летувісаў гэта адбылося значна раней. У нас гэта яшчэ будзе працягвацца. Рабкая маўклівасьць, пакорлівасьць адыйдуць у нябыт не адразу.

Новы ўрад? Калі ён будзе? Ці будзе ён лепшы за стары? Альбо ў ім зноў засядуць учарашнія намэнклятуршчыкі й насуперак здароваму сэнсу будуць трымаць раўненьне на Маскву, чакаць «каманды» зьверху, імкнуцца да саюзу?

Салодкае слова — незалежнасьць. Для беларусаў — занадта ўжо абстрактнае.

Мінулай зімой, калі старэйшая з «пятнаццаці сясьцёр» Расея, выравіла правучыць ганарлівую Летуву й перакрыла ёй кісларод (а дакладней, газ і нафту), летувісы сядзелі ў халодных кватэрах, без гарачай вады. Былі збоі з прадуктамі, спыняўся транспарт... Але людзі верылі свайму ўраду, хацелі перамен і ведалі, дзеля чаго пакутуюць.

Наш жа ўрад, абвясьціўшы незалежнасьць, не пасьпеўшы зьмяніць сымболі, падняў рукі ўгору адразу, варта было Ельцыну прыкрыць краны з газам ды іншым палівам. А беларускі люд залямантаваў: «Ня трэба незалежнасьці, абы цёпла было й паесьці хапала!» Вось ён, наш сапраўдны, «саўковы» патрыятызм...

Якое салодкае слова — незалежнасьць! Толькі шкада, што пакуль не пра нас пісанае.

## Бажэна, якая ўвесь час шукае свае карані

Аднойчы мяне амаль што ўкралі. Высокая, з кароткай стрыжкай кабета ў акулярах загадкава клікала мяне за сабой. І я падпарадкавалася гэтай дзівачцы, бо даўно вельмі люблю такіх людзей.

— Бажэна,— жанчына ветліва працягнула руку і ўсьміхнулася.— Я больш люблю Усход, чым Захад. І мне бліжэй беларус, расеец, летувіс, чым француз ці англічанін.

— Што ж, будзем знаёмыя,— адказала я, узрадаваная магчымасьці пагутарыць з неардынарным чалавекам.

Мы прасядзелі ў кавярні дзьве гадзіны, потым доўга блукалі па алеях парку. Знаходзілі агульныя інтарэсы й погляды, бы дзеці, шчыра радаваліся.

Бажэна скончыла Варшаўскі унівэрсітэт, потым удасканальвала свае веды ў вобласьці замежных моў у Парыжы. Перакладчыца з французкай і гішпанскай моў. Пяць апошніх гадоў пражыла ў Парыжы й лічыць гэтыя гады самымі яркімі й незабыўнымі ў сваім жыцьці.

— Раскажы пра Парыж...— прасіла я Бажэну й слухала яе аповяды, як цудоўную казку.

Калі ў маёй новай сяброўкі быў сумны настрой, я ведала, прычына гэтаму — не палудзень ці халодны дождж, а якая-небудзь зьява сацыяльнай няроўнасьці людзей. Бо болей за ўсё яна хоча, каб усе людзі мелі роўныя магчымасьці для жыцьця й творчасьці.

— Гэта хвароба ня толькі ваша,— з горычу кажа яна.— Польскае грамадства нічым не адрозьніваецца ад вашага: усё, што раней было добрым, чыстым, сьвятым, раптам стала брыдкім, брудным. Нельга адное і тое ж спачатку прымаць, цаніць, а потым ганьбіць. Гэта сьмешна. Усе былі атэістамі, а раптам сталі вернікамі. Усе былі камсамольцамі, а цяпер лічаць за сорам нават узгадваць пра гэта... Так прасьцей — не змагацца з памылкамі, не зьмяняць нешта, не паляпшаць, а ў адзін момант усё перакрэсьліць, зламаць, ад усяго адхрысьціцца... і, седзячы на пустым мейсцы, чакаць новых ідэалаў. Бажэна некалі не захацела вывучаць нямецкую мову, бо ненавідзела фашыстаў. Разышлася з каханым чалавекам, бо даведалася, што ён «прадаваў» свае мазгі багатаму й вельмі недалёкаму начальніку. Да сьмерці даглядзела чужую бяздомную бабульку, бо так падказвала сумленьне. І ніколі не ходзіць у касьцёл дзеля цікаўнасьці ці моды, мае ўласнае меркаваньне на гэты конт. Не карыстаецца касмэтыкай, імкнецца быць натуральнай і зьнешне, і ў адносінах да людзей. А яшчэ — увесь час шукае свае карані, сваіх далёкіх продкаў і піша гісторыю роду.

Мне было страшна прызнацца, што я не памятаю, як называліся мае продкі. Тут не забыцца б, як клічуць стрыечных братоў ды сясьцёр! А Бажэна з любоўю распавядала мне гісторыю сваёй прапрапрабабкі, якую ўсе вельмі любілі.

— А ведаеш, чаму я прыехала адпачываць менавіта сюды? — аднойчы падчас такой гамонкі спытала мяне сяброўка.— Была ў адным архіве, перакапала ворах літаратуры й высьветліла, што адна з галін майго роду вядзе ў Летуву, у Зарасайскі край! Днямі адпраўляюся туды. Паехалі разам!

Як хацелася кінуць усё й зьехаць у невядомыя нам абедзьвюм мясьціны! Але голас розуму паўтараў: «Санаторнае лячэньне нельга перапыняць...» і Бажэна паехала ў Зарасай адна. Яе голас розуму быў сугучны з голасам яе пачуцьцяў...

■

У кожнага з нас свае каштоўнасьці. Зыходзячы з іх, мы будуем сваё жыцьцё, прагнем чагосьці, да чагосьці імкнемся. Хтосьці марыць прыбдаць



прыгожую вопратку ці новы гардэроб, пабудаваць уласны дом, лецішча, лазьню, набыць машыну. Хтосьці — напісаць кнігу ці скласьці музыку, вывесьці новыя сарты ружаў ці пераадолець непераадольную вышыню. Нехта — знайсьці свае карані й адчуць гармонію чалавека й сьвету...

Матэрыяльнага дабрабыту дасягнуць нялёгка, але магчыма для многіх, хто гэтага хоча. А вось духоўнага... Да яго прыйдуць вельмі нямногія. Здаецца, Бажэна ў ліку гэтых шчасьліўцаў...

■

**Ад 'яжджаю... Скончылася сьвята, падоранае лёсам. Упершыню, разьвітваючыся з Друскенікамі, стрымліваю сьлёзы, бо ўпэўнена, што яшчэ ня раз вярнуся сюды. Я пакідаю сэрца тут. Сэрца й думкі. Тут жыве мая даўняя туга, мая самота — пачуцьцё цудоўнае і ўрачыстае, якое захапіла мяне ў палон некалькі гадоў таму і для барацьбы з якім я больш ня маю аніякіх сіл.**

**... Мяжа. Нехта ў аўтобусе выказаўся: «Панавыдумвалі, гады! Раней жылі адной сям 'ёй, а цяпер, бы ад ворагаў, аддзяліліся...»**

**Я не лічу патрэбным ні з кім спрачацца, але дакладна ведаю, ад каго ўсё больш трывала аддзяляецца незалежная Летува. Ад таго вар 'яцтва, якое нядаўна захліснула Маскву, ад той рахманасьці й абыякавасьці, якая апанавала большасьць маіх суайчыньнікаў, ад чорнай нянавісьці, якая патапіла ў крыві Абхазію й Грузію, ад бруду.**

**У нашым аўтобусе абмяркоўваюцца гандлёвыя справы: курс літа й даляра, цэны на самыя хадавыя тавары на торжышчы, выгоднасьць ваяжоў з Беларусі ў Летуву.**

**Як мне шкада іх усіх! Амаль штодзень яны бываюць у Друскеніках і, упэўнена, ніколі не сустракалі сьвітанак на востраве Каханьня, і ня чулі надрыўнага плачу івалгі, не блукалі па самых запаветных сьцяжынках і не трацілі пачуцьця часу, патанаючы ў залатой лістоце старога-старога парку, разам з восеньню не кружыліся ў восеньскім вальсе й не забываліся пад усепераможныя гукі аргана, ня чулі, як гучыць стары раяль у доме Чурлёніса і як сьпяваюць драўляныя скульптуры ў парку «Лясное рэха»...**

**(Заканчэньне. Пачатак у № 41).**

# *ПАД САМЫ НОВЫ ГОД*

## Калісьці Новы год сьвяткавалі інакш

**Зараз модна казаць, што Новы год — гэта сямейнае сьвята. А вось 95-гадовы дзед Якуб з Горадні так ня лічыць, і ўспамінае, як Новы год і Каляды сьвяткавалі раней.**

Вёска Вышкава, дзе ён нарадзіўся, знаходзіцца непадалёк Наваградка. Жылі ў ёй каталікі, праваслаўныя, іудзеі. Жылі дружна, сябравалі. Калі ж надыходзілі зімовыя сьвяты, то гэта быў фэст для ўсіх. Я нарадзіўся ў 1898 годзе. Калі мне споўнілася 13 год, старэйшыя хлапцы ўзялі мяне калядаваць. Адразу зазначу, што каталіцкія Каляды праходзілі сьціплей. Нашы ж, праваслаўныя Шчодрыя вечары, у параўнаньні з астатнімі, былі велічныя й працягваліся каля дзьвюх тыдняў. На Новы год бацькі хадзілі да суседзяў у госьці, потым агульная сямейная вячэра. Мы, дзеці, рабілі зорку (вярцеп), шыкавалі разнастайныя строі нападабенства птушак, зьвяроў, бабы Ягі, нараджаліся ў іх і ўвечары на каляду абыходзілі з сьвятымі сьпевамі кожную хату вёскі. Выключэньня не рабілася анікому. Паўсюдна ў сваіх сьпевах усхвалялі Ісуса Хрыста — Сына Божага. Гаспадары выносілі нам каляднае (пачастункі). Хто — грошы, хто каўбасы, а хто й зазываў усіх за сьвяточны стол і частаваў моцным.

Калі ўся вёска спазнала нашыя сьпевы й заплаціла нам, ішла падлічка здабытка. Дзялілі ўсё пароўну, несьлі дахаты, а потым вярталіся, каб працягваць вясельле. Хлопцы дужаліся, дзяўчаты сьпявалі. Напрыканцы Шчодрага Вечара хлапцы наўмысна бралі барану й цягнулі яе вакол вёскі — гэта каб вясковыя дзяўчаты не павыходзілі замуж за чужых хлапцоў. Дзяўчаты бегалі, перашкаджалі, але сварак не было. Пасьля бараны зьяўляўся гармонік, наноў былі танцы, сьпевы, гульні. Ужо на золку, перад самым адыходам дадому, пачыналіся кпіны. Сваім жа вяскоўцам падпіралі дзьверы, затыкалі саломай комін, нават маглі перанесьці нейкую маёмасьць аднаго гаспадара да другога. Але ніхто за гэта не злаваў, усё зыходзіла на жарты.

Так было да першай сусьветнай вайны. У дваццатыя, калі ўсталявалася на Наваградчыне польская ўлада, прывілеі пачалі аддавацца каталікам. Нашыя Навагодне-калядныя жарты прыйшліся ім не да спадобы. Паляцелі скаргі да Гміны й паліцэйскіх пастарункаў. Завадатараў выклікалі, часам каралі. Але ўсчуўшы пра кару, складальнік скаргі адразу ж бег на пастарунак і сам прасіў не караць свайго жартаўніка, бо за скаргу на жарт ў Сьвяты вечар ён рабіўся пасьмешышчам на ўсю вёску.

Польскі час мінуў. Калі прыйшлі ў 1938 годзе бальшавікі, то ўсе зімовыя сьвяты адразу пайшлі на паніжэньне. Зьніклі вясёлыя сьпевы, гулі. Навокал зрабілася сумна. А чаго было весяліцца, як цэлыя сем 'і працавітых, сумленных людзей вывозіліся.

І потым, у гады Савецкай ўлады, нашы народныя зімовыя сьвяты былі пазбаўлены асалоды забавы. Усё рабілася так, каб зьнішчыць народныя традыцыі. І бягучай уладзе ўдалося гэта зрабіць. Людзі пачалі баяцца, хавацца, зайздросьціць. Раней як было? У любой хаце госьцю былі рады, частавалі чым маглі, і ўсе былі задаволеныя. Цяпер нейкае спаборніцтва — ў каго лепшы стол. Адсюль і зайздрасьць, і сквапнасьць, і многае іншае, што адсутнічае ў душах сталых людзей.

Мы кожны год ладзім дома сьвяты, ходзім да сваякоў, знаёмых. Сёлета таксама я і мая 87-гадовая бабуля Яніна пойдзем ў госьці, да дзяцей, да ўнукаў. Павіншуем іх з Новым Годам і Нараджэньнем Ісуса Хрыста.

Дарэчы, у свае 95 год дзед Якуб трымае невялічкую пасеку, садок і гародчык. Са ўсёй гаспадаркай ўпраўляецца разам з бабуляй.

**Падрыхтаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

## Чакаем пераменаў

**Напярэдадні навагодніх сьвятаў да рэдакцыі «Пагоні» завітала шмат людзей. Для гасьцей было заданае пытаньне: «Чаго чакаюць яны ад Новага года?». З найбольш цікавымі выказваньнямі газэта знаёміць сваіх чытачоў.**

**Іван Раманавіч ЦЯРЭШКА — загадчык афтальмалагічнага аддзяленьня ТМА № 2:** «Ад Новага года чакаю ня шмат, але спадзяюся на пэўныя перамены ў галіне мэдыцыны. Тут я маю на ўвазе страхавую мэдыцыну. Па-другое, спадзяюся, што значна галасьней заявіць аб сабе прыватная мэдыцына. Гэты год даў ёй падмурак, з якога добра стартаваць. Вынікі, якія маюць прыватнікі, радуюць. Па-трэцяе, маю надзею, што адбудуцца зьмены і ў забесьпячэньні шпіталяў і паліклінік неабходным сучасным абсталяваньнем і мэдыкамэнтамі. Зрухі тут мне бачацца не ў цэнтралізаваных, разьмяркоўваемых зьверху пастаўках, а ў наладжваньні партнёрскіх сувязяў. Канешне, з абавязковым сэртыфікатам якасьці».

**Аляксандр САЖЭНЬ — прэзідэнт зьнешнегандлёвай фірмы «Інтэрсэрвіс»:** «Найперш я зьвязваю свае надзеі з выбарамі ў надыходзячым годзе, пасьля якіх прафэсійны парлямэнт распрацуе й прыме пакэт так пажаданых прыватнікам законаў. Упэўнены, што гэтыя законы паспрыяюць як мясцовым, так і замежным інвэстарам. Гэта, ў сваю чаргу, спрыяльна адабьецца на канкурэнтаздольнасьці тавараў беларускага рынку. Думаю, што падмацаваны законам прыватны бізнэс разам з дзяржаўнай вытворчасьцю значна папоўняць спусьцелыя за апошні час паліцы нашых крамаў. Яшчэ чакаю ад наступнага года таго, што ён, нарэшце, пад уплывам рэчаіснасьці зможа павярнуць беларускі дзяржаўны карабель на 180 градусаў, які, нарэшце, пойдзе сваім сувэрэнным курсам як у палітыцы, так і ў эканоміцы».

**Маёр памежнага войска Хведар ДЗІСКАВЕЦ** ад надыходзячага года вялікіх пераменаў не чакае. Але спадзяецца, што ўрэшце рэшт атрымае жытло й зможа адыйсьці на рэнту. Праўда, Хведару Уладзіміравічу хацелася б, каб ці стары, ці новы ўрад зьнізілі, нарэшце, інфляцыю, а то, як лічыць спадар Хведар, яму давядзецца шукаць працу ці ісьці на торжышча спэкуляваць, а гэта пярэчыць гонару беларускага афіцэра.

**Віталь БУРЛА — вадзіцель аб 'яднаньня «Гроднаэнэрга».** «Новы год не прынясе задавальненьня рабочым. Яны па-ранейшаму будуць самай неабароненай часткай працаздольнага насельніцтва. Думаю, што беспрацоўе ўзрасьце і дасягне крытычнай мяжы. Каб пазьбегнуць самых небясьпечных вынікаў, неабходныя перавыбары ўраду. Хоць кажуць, што коней на пераправе не мяняюць, але каб зрушыць наперад рэформу — гэта трэба, бо гульні ў эканамічны саюз і рублёвую зону надакучылі. Гэта ж не сакрэт, што тых самых энэрганосьбітаў не хапае самой Расеі. Яскравы прыклад — спыненьне заводаў «Аўтаваза», «КаМаЗа», а то і цэлых вабласьцей».

**Аляксандр ВАЎКОВІЧ — зубны тэхнік дзіцячай паліклінікі:** «Чакаю ад 1994 года хоць якой стабілізацыі. Спадзяюся на тое, што нашыя грамадзяне стануць багацейшымі. Вельмі ўжо надакучыла назіраць, як нашы кліенты ад зьбядненьня наўзамен залатых каронак ці пласьцінак выбіраюць самыя просьценькія і танныя пластмасавыя пратэзы. У той жа час турысты з Польшчы не адмаўляюцца замовіць сабе штучныя зубы з напыленьнем ці ставяць нават золата».

**Аляксей КРАЎЧУК, сем год, Горадня:** «На Новы год чакаю падарунка. Хачу, каб усё значна патаньнела, бо вельмі ўжо надакучылі дома размовы бацькоў аб непамерных коштах. Асабліва дрэнна, калі бацькі пачынаюць расказваць аб цяжкім жыцьці ў размовах, якія тычацца цукеркаў і новых цацак».



## Прагноз на 1994 год

Вячаслаў Францавіч Кебіч пачне штодзённа карыстацца беларускай мовай.

У мэтах заахвочваньня людзей да плённай працы выпусьцяць мэдаль «Герой постсацыялістычнай працы», які будзе выробляцца з чыстага золата.

Па заведзенай традыцыі ў Расеі пачнецца падрыхтоўка да новага путчу.

Будзе складзены «Кодэкс будаўніка капіталізму».

Нарэшце, скончацца баявыя дзеяньні паміж Арменіяй і Азербайджанам. ААН разгледзіць пытаньне аб далучэньні Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласьці да Грузіі ў якасьці кампэнсацыі за Абхазію, якая атрымае незалежнасьць.

З-за невысокай плацёжаздольнасьці насельніцтва рэспублікі значна зьнізіцца попыт на імпартныя тавары, што пагоршыць адносіны Беларусі з Турцыяй, Польшчай, Кітаем і іншымі.

Дэфіцыт паліва прывядзе да павышэньня попыту на веласіпеды, ролікавыя канькі і дошкі, і ў газэтах зьявяцца аб'явы нашкталт: «Мяняю матацыкл на веласіпед».

З-за недахопу лекаў і высокай цаны на іх у аптэках пачнецца інтэнсіўная нарыхтоўка лекавых расьлін: рамонкі, зьверабоя, падбела і іншых, якія стануць прэтэндэнтамі на занясеньне ў «Чырвоную кнігу».

Экспанаты Цэнтральнага музэя імя Ў. І. Леніна будуць перанесены ў Маўзалей.

Каб падахвоціць людзей набываць кнігі з творамі клясікаў рускай літаратуры, выдавецтвы пачнуць зьмяшчаць на іх вокладках адлюстраваньне непакрытых жанчын.

Камэрцыйныя банкі адчыняць абменныя пункты валюты ва ўсіх крамах, а некаторыя — на прадпрыемствах, у навучальных і дашкольных установах.

Прамтаварныя крамы Ўкраіны пачнуць продаж спэцыяльных кайстраў для нашэньня грошай.

Каб зарабіць валюту для паездкі на спаборніцтвы за мяжу, беларускія спартсмэны будуць вымушаны працаваць на бізнэсмэнаў у якасьці целаахоўнікаў і вышібал у барах і рэстаранах.

Па прапанове Расеі і ўзамен на яе энэрганосьбіты ядзерны палігон з Сяміпалацінска будзе перанесены ў Чарнобыльскую зону.

Да вясны значна зьменьшыцца колькасьць надворных пабудоў прыватнага сектара Горадні, жыхары якога будуць выкарыстоўваць драўніну для ацяпленьня жылых памяшканьняў.

Будзе выробляцца настолькі шмат рэкламы, што для яе паказу створаць спэцыяльны тэлевізійны канал.

**А. НАСТРАДАМЧЫК.**

## Напярэдадні калядаў

23—24 сьнежня супрацоўнікамі Гарадзенскага музэя гісторыі рэлігіі для школьнікаў горада ладзіліся перадкалядныя сьвяты. Ва ўтульнай зале Базыльянскага кляштара пра нараджэньне Хрыста, пра Бога ў першы вечар распавядаў вучням дваццаць пятай школы грэка-каталіцкі сьвятар. Ён павіншаваў дзетак са сьвятамі, пажадаў ім посьпехаў у вучобе, патлумачыў зьяўленьне ў Беларусі вуніяцтва, як гэтая вера пазьней была забаронена расейскімі царамі, а таксама апавядаў аб сёньняшнім яе адраджэньні і запрасіў дзетак на набажэнства, якое адбываецца а 15 гадзіне кожную нядзелю ў гарадскім Доме культуры. Пасьля яго выступа ў выкананьні ансамбля старажытнай музыкі Гарадзенскай капэлы гучалі мэлёдыі французкіх кампазітараў эпохі Адраджэньня.

У другі вечар каталіцкі сьвятар пабываў з віншаваньнямі ў школе-інтэрнаце для дзяцей з непаўнацэнным зрокам. Ён таксама распавядаў ім пра сьвята, і кожнаму падараваў па маленькай паштоўцы з выявай нараджэньня Хрыста. У гэты вечар для дзетак у выкананьні ансамбля старажытнай музыкі Гарадзенскай капэлы гучалі мэлёдыі італьянскіх кампазітараў. Вельмі ўдала выступіў дзіцячы ансамбль «Дударыкі» пад кіраўніцтвам гарадзенскага кампазітара Петрашэвіча.

Вучні і настаўнікі былі ўражаны вечарынай, яны падзякавалі супрацоўнікам музэя, сьвятару, артыстам, засьпявалі для іх калядную песьню.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**

## Вечарына ў тэатры Тызэнгаўза

26 сьнежня ў Лялечным тэатры Горадні адбылася Калядная ўрачыстасьць.

А 19-ай гадзіне вечарыну распачаў Гарадзенскі духавы аркэстр пад кіраўніцтвам Г. Шемеха. А потым, пасьля ўступнага слова чароўных вядучых, закруцілася і панеслося... Чаго там толькі не было: і чэрці, і анёлы, і розныя пэрсанажы са старажытных беларускіх паданьняў. У сьвяточным фэсьце ўдзельнічалі як самыя маленькія, так і людзі паважанага ўзросту. Гучала й беларуская, й польская мовы, Сьвяточныя калядныя сьпевы ў гонар нараджэньня Божага немаўляткі. Гледачы й выступаючыя былі як адзінае цэлае. А калі на сцэне зьявіліся паходняўцы пад выглядам калядоўшчыкаў, то паставілі ўсіх, як кажуць, на вушы. Сцэна ператварылася ў сапраўдную вясковую хату: частушкі, калядныя песьні, пляскі, шчырыя пажаданьні на будучыню. Не абыйшлося, вядома ж, і без знакамітай казы.

Карацей, на карнавал, які павінен быў адбыцца адразу пасьля прадстаўленьня, усе пайшлі ў сапраўдным сьвяточным настроі.

Вечарына ўдалася. Нельга было й падумаць, што зьбярэцца столькі жадаючых правесьці разам гэты вечар. І ад цікавасьці я запытала ў маіх суседзяў па зале: «Чаму яны прыйшлі сёньня ўвечары менавіта сюды?»

Сталы мужчына, што сядзеў разам з маленькай дзяўчынкай, адказаў так: «Сам я вясковы, і гэта ўсё мне добра вядома, нават шкада, што давялося пераехаць у горад. А вось унучцы ўжо няма дзе гэта ўбачыць. І ёй вечарына вельмі падабаецца».

«Я сама са сталіцы,— адказала жанчына, што сядзела з другога боку ад мяне,— а на гэтае сьвята Божага Нараджэньня прыехала да сваякоў у госьці. У вёсцы ніколі не была, тым больш на якіх-небудзь сьвятах. І калі даведалася аб вечарыне — адразу вырашыла, што пайду, бо вядома ж, што, на жаль, толькі на вёсцы людзі здолелі захаваць абрад калядаваньня такім, які ён быў яшчэ ў старажытнасьці. Вось сёньня я ўпэўнілася ў гэтым і шкадую толькі, што так позна».

На мінулагоднія Каляды ў Лялечным тэатры таксама адбывалася вечарына. І хацелася б, каб традыцыя такіх Калядных вечарын замацавалася так жа надзейна ў нашым жыцьці, як прыгажуня-елка пад Новы год.

**А. МАРЦУЛЬ.**

## Дзьмухаўцом быць — нялёгка жыць

Жартоўна-іранічнае выслоўе ў адрас сталага пакаленьня — дзьмухавец,— вельмі дарэчы.

Куды ж нам дзець свае адзіноту і старасьць? Нікому мы не патрэбныя і ніхто аб нас дбаць не зьбіраецца, нават уладныя. Пакуль трымаешся на нагах — мацуйся стары, і сам шукай прытулку.

Так і я вырашыў самастойна пашукаць выйсьце. Атрымаў пэнсію ды хутчэй да крамы купіць сёе-тое, пакуль не перацанілі. Заходжу ў краму № 5, што па вул. Савецкай,— бацюшкі сьветы, якія там кошты: мяса — каля 10 тысячаў, малако на сотні лічыцца, яйкі — толькі цэдлік з коштам ад іх застаўся. Ну, думаю, ня буду тут сябе сароміць з 30 тысячамі сваёй рэнты, а пашукаю краму, дзе таньней.

Хамянуўся на прыпынак, а там люду чакае на тралейбус, што мяне чуць не задушылі пры пасадцы. Вось табе, думаю, й павага для старых. Разчуліўся я, чуць не заплакаў. Падумаў, зайду да аптэкі, куплю заспакойваючы нэрвы лек. Падышоў да важенца, прашу ў аптэкаркі: дайце мне што-небудзь ад нэрваў, а сам сваё пасьведчаньне на ільготы ёй бліжэй да вачэй піхаю. Але што ёй пасьведчаньне, яна як гыркне: няма лекаў, усе ліміты скарыстаныя, ня бачыш — Новы год на носе.

Паклыпаў я ні з чым дахаты, а па дарозе прыйшла мне ідэя, што, калі ў нашым горадзе з 'арганізаваць танную краму, спэцыяльны тралейбус, аптэку і, каб з подпісам — толькі для рэньцістаў, толькі для дзьмухаўцоў.

**В. СЕГІНЬ, пэнсіянэр.**

